ПРОГНОЗ



# К 2100 году население России может сократиться на 40 миллионов

В России число жителей может снизиться к концу текущего столетия с 146 до 106 миллионов человек. Это следует из статьи группы ученых, опубликованной в медицинском журнале The Lancet 15 июля.

По оценке авторов публикации, население Земли к 2100 году будет расти медленнее, чем ранее прогнозировали эксперты ООН. С нынешних 7,8 миллиарда человек оно увеличится до почти 8,8 миллиарда, что на два миллиарда меньше прежних оценок. Исследователи связывают это, в частности, с тем, что в подавляющем большинстве стран мира (183 из 195) уровень рождаемости упадет так сильно, что рост населения станет невозможен без притока мигрантов.

## Население Украины и Беларуси может сильно уменьшиться

Согласно исследованию, к концу столетия может сократиться вдвое или больше население Украины (с 44,6 до 17,5 миллиона) и Беларуси (с 9,4 до 5,5 миллиона). В общей сложности более 20 стран, в том числе Япония, Испания, Италия и Польша, могут потерять половину населения, а в Китае число жителей может уменьшится с 1,4 миллиарда до 731 миллиона, подсчитали исследователи. В Германии этот показатель может снизиться с 83 до 66 миллионов человек.

И напротив: согласно прогнозам авторов статьи, население будет расти в странах Африки, расположенных к югу от Сахары. Например, в Нигерии, которая сможет с 800 миллионов жителей стать второй страной по численности населения после Индии, где число жителей, кстати, может снизиться с 1,3 до 1 миллиарда человек.

ВЫБОРЫ-2020

# Вместе!

*Президентские выборы в Беларуси солидаризируют общество. Штабы Светланы Тихановской, Виктора Бабарико и Валерия Цепкало заявили об объединении.*



Вчера представители всех штабов встретились и обсудили дальнейшие действия, а также направление сотрудничества.

Озвучили пять основных направлений деятельности:

- Призыв идти на выборы 9 августа.
- Освобождение всех политзаключенных.
- Информирование избирателей об их правах и о возможностях защищать свой голос.
- Массовое наблюдение на всех участках.
- Объявление новых честных выборов после 9 августа.

ПАНДЕМИЯ

# 14-дневный карантин для въезжающих в Россию отменен с 15 июля

Роспотребнадзор принял постановление об отмене с 15 июля обязательной 14-дневной изоляции для прибывающих в Россию граждан.

У приезжего должен быть с собой медицинский документ, составленный на английском или русском языке, подтверждающий отрицательный тест на коронавирус COVID-19.

Иностранный гражданин сможет предоставить справку о тесте методом полимеразной цепной реакции (ПЦР), пройденном не ранее чем за три дня до прибытия в страну, и документы о наличии антител иммуноглобулина G (если таковые имеются).

Если человек не имеет такого документа, ему будет предоставлено три дня, чтобы пройти соответствующий тест в России. Где все это время должен будет находиться иностранец, в документе не уточняется. Процедура тестирования будет проходить на платной основе за счет человека, который пытается въехать в страну.

Аналогичные правила будут касаться российских граждан, которые намерены вернуться на родину.

СЛУЧАЙ

# Массовое заражение моряков с отрицательными тестами на COVID-19 озадачило ученых

*Массовое заражение коронавирусом аргентинских рыбаков, которые провели в море более месяца, озадачило ученых.*

Рыболовное судно Echizen Maru с 61 рыбаком на борту вышло из порта Ушуая и провело в открытом море 35 дней. Никаких контактов с сушей за это время у экипажа не было. Все рыбаки перед рейсом не только сдали тест на COVID-19 с отрицательным результатом, но и выдержали 14-дневный карантин.

Судно было вынуждено вернуться в порт после того, как у некоторых рыбаков появились симптомы заражения коронавирусом. В Минздраве провинции Огненная Земля сообщили, что инфекция обнаружена у 57 человек.

В настоящий момент медики пытаются выяснить, как инфекция попала на борт, и восстанавливают хронологию событий.

ЭКОЛОГИЯ

# Мир движется к максимальному за 3,3 миллиона лет содержанию $CO_2$ в воздухе

«Ученые расшифровали данные о климате, которые миллионы лет хранились в крошечных ископаемых организмах. Взгляд в прошлое показывает, как выглядела тогда Земля, и позволяет сделать выводы о том, что ей предстоит», – пишет немецкий журнал *Der Spiegel*.

«Через пять лет в атмосфере, вероятно, будет содержаться больше двуокиси углерода, чем в самый теплый период последних 3,3 миллиона лет. Об этом ученые сообщают в научном журнале *Scientific Reports*. Так называемый плиоцен, начавшийся примерно 5,3 миллиона лет назад и закончившийся 2,5 миллиона лет назад, считается копией будущего климата и поэтому представляет особый интерес для ученых», – передает издание.

«Знания об уровне $CO_2$ в геологическом прошлом важны, потому что они показывают, как реагировали на него климатическая система, полярные снежные шапки и уровень моря», – говорит автор исследования Элвин де ла Вега из Саутгемптонского университета.

«В эпоху плиоцена температуры превышали сегодняшние на 3–4 градуса, в Европе жили жирафы, в Антарктике росли растения, в Гренландии не было льда, а уровень моря предположительно был на 15–20 метров выше».

«То, что на Земле пока нет таких же высоких температур и уровня моря, как во время плиоцена, связано, по мнению ученых, с тем, что для реакции климата на повышение $CO_2$ необходимо некоторое время. Если выбросы будут увеличиваться, в скором времени содержание $CO_2$ в атмосфере превзойдет значения плиоцена и превысит максимальные значения за 15 миллионов лет», – передает *Der Spiegel*.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ

# Новое лекарство против рака поражает своей эффективностью

Институт исследования рака Лондона и компания Cyclacel создали новый противораковый препарат, способный вылечить целый ряд онкологических заболеваний, в том числе рак крови и твердые опухоли, передает Medical Express. Фадрациклиб представляет собой двойной ингибитор двух белков, вызывающих рак, из семейства циклинзависимых киназ – CDK2 и CDK9.

Препарат был разработан путем улучшения свойств другого ингибитора циклинзависимых киназ – селициклиба. Структурные модификации привели к 20-кратному усилению активности в отношении CDK2 и CDK9 и к 30-кратному повышению противораковой эффективности. Как показали испытания, фадрациклиб не только тормозит работу заявленных соединений, но меняет экспрессию генов и приводит к гибели раковых клеток в результате апоптоза.

Так эффективность торможения роста опухолей при миелоидном лейкозе доходила до 100%. Специалисты подчеркивают: препарат, что важно, давал устойчивое снижение уровней MCL1 – белка, участвующего в выживании раковых клеток и дающего лекарственную устойчивость.

Помимо лейкемии, фадрациклиб показал свою активность против клеток рака молочной железы человека. Это было связано со снижением экспрессии MCL1 и важного онкогена MYC. Сейчас препарат проходит первую фазу клинических исследований среди пациентов с твердыми опухолями и с разными формами лимфолейкоза.

ЗАКУЛІССЕ

# Учора ў Віцебску адкрыўся “Славянскі базар»

*Як вядома, з-за каранавіруса яго адмяняць не сталі.*





Зорка расійскай эстрады Піліп Кіркораў прыляцеў у Віцебск на маленькім самалёціку. Учора на Плошчы зорак у Віцебску запалілася імянная зорка артыста. А падчас гала-канцэрта Кіркораў атрымаў з рук А.Лукашэнкі спецузнагароду “Праз мастацтва – да міру і ўзаемаразумення».

Артыст апублікаваў у сваім Instagram відэа зборў і паказаў, колькі багажу планує ўзяць у паездку: *“Доўгачаканы вылет на канцэрт ... і калі не вызначышся са сцэнічным уборам. Адпраўляемся на цырымонію адкрыцця імяннай зоркі, а пасля, вядома, урачыста адкрыю фестываль “Славянскі базар»! Усё так хвалюючa пасля працяглага перапынку...»*

Спявак звярнуў увагу, што па традыцыі надвор'е ў дзень паездкі на *“Славянскі базар у Віцебску» даждлівае і халаднаватае, але ён апрануты па-летняму і едзе з настроем Афрыкі».*

Выступленне Піліпа Кіркорава на “Славянскім базары» стала першым з канца сакавіка, калі ва ўсім свеце сталі адмяняцца масавыя мерапрыемствы. Артыст прызнаўся, што прыкметна хваляецца. Для паездкі ў Беларусь ён атрымаў адмысловы дазвол – вырашыў пытанні і з памежнікамі, і з “Роспотребнадзором».

Напярэдадні сталі вядомы падрабязнасці яго райдара. Як піша “Российская газета», па прыбыцці артыста чакалі два лімузіны і Mercedes для балета. Жыць Кіркораў будзе ў двухпакаёвым прэзідэнцкім люксе.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Зачем летят на Марс миссии США, Китая и ОАЭ

Примерно раз в полтора года планеты Солнечной системы выстраиваются таким образом, что путешествие с Земли на Марс сокращается с девяти до семи месяцев – это позволяет сэкономить не только время, но и ракетное топливо. Этим летом – как раз такое «окно».

Национальное управление по аэронавтике и исследованию космического пространства (NASA) традиционно пользуется этой возможностью – предыдущие американские миссии на Марс стартовали в шесть из последних восьми подобных «окон». Но на этот раз к Красной планете устремятся летательные аппараты еще двух стран: Китая и Объединенных Арабских Эмиратов.

## Есть ли там жизнь?

Марсоход миссии «Марс-2020» американского аэрокосмического агентства получил имя «Perseverance» («Настойчивость»). Запуск запланирован на период с 22 июля по 11 августа. В зависимости от даты отправки марсохода он должен прибыть на Красную планету с 31 января по 18 февраля. Местом посадки был выбран кратер Джезеро к северу от марсианского экватора. Основная задача экспедиции – выяснить, есть ли жизнь на Марсе, и понять, может ли атмосфера на планете в будущем измениться так, что она станет пригодной для жизни людей.

«Perseverance» оснащен усовершенствованной навигационной системой с панорамными и стереоскопическими камерами, а также экспериментальной установкой MOXIE, с помощью которой попытаются извлечь кислород из марсианской атмосферы, состоящей в основном из углекислого газа. Кроме того, он может запускать беспилотный летательный аппарат Mars Helicopter для более детального обследования местности. Аппарат снабжен и двумя микрофонами. В NASA надеются, что все это позволит «Perseverance» *«потрогать, попробовать и наконец услышать звуки Марса»*.

Все образцы горных пород и грунта, которые соберет марсоход с помощью бура и роботизированной руки, будут помещены в стерильные металлические контейнеры и оставлены на поверхности планеты. Для их доставки на землю NASA планирует еще одну миссию в 2026 году.



## Китай: догнать и перегнать Америку

Китайская экспедиция носит имя «Tianwen-1» («Вопросы к небесам»). Так называется поэма поэта Цюй Юаня, жившего примерно в 340–278 гг. до н.э. и считающегося одним из величайших поэтов древнего Китая.

В зависимости от условий, в том числе погодных, запуск космического аппарата с помощью тяжелой ракеты-носителя «Чанчжэн-5» запланирован с 23 июля по 5 августа с космодрома Вэньчан на острове Хайнань. Местом посадки предварительно выбран район марсианской равнины Утопия, межпланетный зонд должен достичь его в феврале 2021 года.

Как и у программы NASA, задача китайской миссии – найти следы жизни на Марсе, а также понять, может ли атмосфера на планете в будущем стать пригодной для колонизации. Но гораздо важнее для Китая возможность утвердиться в статусе новой космической сверхдержавы, догнав – а по возможности и перегнав – своего основного конкурента Соединенные Штаты.

Поэтому миссия «Tianwen-1» амбициознее американской: она должна доставить к Марсу не только ровер, но и орбитальный аппарат, который будет исследовать планету с помощью камер и радаров, двигаясь вокруг нее по орбите. Посадочный модуль, в котором находится ровер, должен обеспечить его мягкую посадку на поверхность Марса с использованием парашютов и двигателей, замедляющих падение, а также надувных подушек.

Китайский марсоход вчетверо легче американского ровера – он весит около 200 килограммов и оснащен радиолокационной станцией подповерхностного зондирования. Прибор позволяет проникнуть на глубину до 100 метров под поверхностью Марса и исследовать его геологическое строение, а также проводить химический анализ состава почвы и вести поиск биомолекул и биосигнатур.

## ОАЭ: «Надежда» даст импульс экономике и вдохновит молодежь

Объединенные Арабские Эмираты намерены стать первой арабской страной, осуществившей межпланетный полет. Программа ОАЭ по изучению Марса называется «Hope» («Надежда»), ее второе название – «Марсианская миссия Эмиратов» (ММЭ). Орбитальный аппарат, который устремится к Марсу с японского космодрома Танэгасима, разработали в Космическом центре Мухаммеда бин Рашида в Дубае в партнерстве с лабораторией атмосферной и космической физики университета Колорадо. Пусковое «окно» будет открыто с 15 июля по 13 августа, ориентировочная дата – 15 июля. Запуск будет осуществлен с помощью японской ракеты.

В отличие от американской и китайской космических программ по освоению Марса, цель миссии ОАЭ более скромная: «Hope» будет наблюдать за атмосферой Марса с орбиты, чтобы создать первую полную карту марсианского климата во всех регионах в течение года. Космический зонд также впервые проведет изучение нижних слоев атмосферы, где формируется марсианская погода, в том числе пылевые бури. Корабль оснащен тремя камерами, позволяющими вести наблюдение за атмосферой Марса в видимом, инфракрасном и ультрафиолетовом диапазонах.

Для ОАЭ чрезвычайно важно достичь орбиты Марса до 50-летия со дня основания страны, которое будет отмечаться 2 декабря 2021 года. Чтобы застраховаться от непредвиденных обстоятельств, вызванных пандемией коронавируса, космический аппарат и часть участников программы были доставлены в Японию уже в апреле 2020 года – гораздо раньше намеченного срока. Если запуск по какой-либо причине не состоится, следующего «окна» придется ждать еще два года.

## Разработка и строительство зонда «Hope» длились шесть лет

В ОАЭ не скрывают, что помимо научной задачи – изучения климата Марса и его влияния на атмосферу – одна из основных целей миссии состоит не столько в освоении космоса, сколько в придании нового импульса экономике страны. *«Правительство ОАЭ с первого дня ясно давало понять, что космос – это инструмент для достижения гораздо более масштабных целей. Речь идет о необходимости коренным образом изменить систему, интегрированная науку и технологии в экономику ОАЭ»*, – заявил в интервью журналу Forbes руководитель программы Омран Шараф.

Еще одна цель программы – вдохновить молодежь в регионе и повысить ее интерес к науке и исследованиям. По словам научного руководителя проекта Сары Амири, они получают огромное количество писем от студентов, в которых те интересуются научными аспектами миссии и спрашивают, могут ли они участвовать в ней. *«Нам пришлось пересмотреть наше отношение к собраниям во время запуска, и мы ищем возможность сделать что-то онлайн»*, – отметила Амири.

АДПАЧЫНАК-2020

# «У вёсцы і працуеш, і адпачываеш…»

*Вядомыя беларусы распавялі «Народнай Волі», ці адпачывалі яны ў гэтым годзе.*

Каранавірус унёс карэктывы не толькі ў працу многіх людзей, адпраўшыш іх дадому на самаізаляцыю, але і ў адпачынак, бо дзяржаўныя межы зачыненыя і на тое ж мора не ва ўсе краіны можна выехаць. Як у такіх умовах адпачываюць людзі?

### Марыя МАМАШУК, сярэбраны прызёр Алімпіяды-2016 па вольнай барацьбе:



– Адпачынак у мяне быў з 20 красавіка па сярэдзіну мая, але і ў гэты час трэніравалася. А што яшчэ рабіць? Быў, можна сказаць, самы разгар пандэміі. За мяжу не выедзеш, дома таксама стараешся трымаць дыстанцыю ад людзей, каб засцерагчыся ад інфекцыі. Таму кнігі чытала, трэніравалася, каб зусім без справы не сядзець.

Зрэшты, для спартсменаў нічога новага няма, калі ў цябе звычайна адзін маршрут: дом – трэніровачная зала – дом…

### Ігар БАРЫСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):

– Калі і з'язджаў адпачыць на некалькі дзён, то толькі ў вёску. Іншая справа, што ў сакавіку па запрашэнні пасольства ЗША паехаў на стажыроўку ў Амерыку. Піка каранавіруса яшчэ не было, хаця менавіта ў той час межы ўжо пачалі закрываць.

І вось тады, нягледзячы на вучобу, удалося ў Маямі адзін раз залезці ў акіян. Калі ўлічваць, што многія беларусы ў гэтым годзе наогул не могуць патрапіць на мора, будзем лічыць, што мне пашанцавала адпачыць на акіяне.



Увогуле, мы з сям'ёй калі і выязджаем на мора, то гэта не так часта адбываецца. Апошні раз былі ў Турцыі тры гады таму.

### Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ, бард:



– Я ўвесь час на хутары жыву, на Нёмане, таму ў мяне тут і праца, і адпачынак. І гэта такі бесперапынны працэс. Раніцай – творчасць. Як казаў кампазітар Яўген Глебаў: «Калі да абеду ты не напісаў хіт, то пасля абеду яго ўжо не напішаш». Таму ў мяне пасля абеду – касьба і іншыя хатнія справы па гаспадарцы.

Яшчэ і ад сяброў не адбіцца! У мяне амаль два месяцы жылі Арцём і Ксенія з гурта NaviBand з малым сынам Мацеем.

Ды і турысты прыязджаюць, мы ж прапагандуем і развіваем агратурызм. А куды зараз паедзеш, акрамя Беларусі? Едуць да нас. Таму займаюся не толькі канцэртамі, а і сантэхнікай, ложкі перасцілаю, мыю падлогі. Як кажуць: калі ты адчуваеш сябе зоркай, то ідзі і памый посуд.

### Міхаіл ЧЫГІР, былы прэм'ер-міністр Беларусі:



– Для мяне самы лепшы адпачынак – на лецішчы пад Мінскам. Тут у мяне і куры, і пасека, і сад. Яблыкі, грушы, вішні, чарэшня… Вялікі ўчастак, за якім патрэбны пастаянны догляд. Таму тут для мяне і маёй жонкі і адпачынак, і фітнестэрапія.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Леанід СУДАЛЕНКА:

# «На каранавірус перахварэла ўся сям'я…»

*Вядомы беларускі праваабаронца распавёў «Народнай Волі», як пачувае сябе пасля перанесенай хваробы.*

– 23 мая ў мяне ўзнялася тэмпература , – *успамінае Леанід Судаленка.* – Выклікаў урача, той мне выпісаў таблеткі ад прастуды і накіраванне ў паліклініку, дзе я здаў аналізы і зрабіў флюараграфію. Усё быццам было ў норме.



Тым часам тэмпература не зніжалася, а праз тыдзень і наогул пачала даходзіць амаль да 40 градусаў. Стан быў такі, што ледзь прытомнасць не губляў.

Натуральна, хацелася зрабіць тэст на каранавірус і прайсці камп'ютарную тамаграфію, аднак, калі я казаў пра гэта ўрачу, яна прыкладала палец да вуснаў (маўляў, пра гэта не трэба ўслых гаварыць) і адпраўляла мяне з маімі пытаннямі ў Міністэрства аховы здароўя.

Але праз знаёмых я ўсё-такі знайшоў магчымасць зрабіць тамаграфію і тэст, і яны пацвердзілі наяўнасць у мяне каранавіруснай інфекцыі. Каля 20 працэнтаў лёгкіх нагадвалі матавае шкло. І гэта больш-менш нармальна, бо ў некаторых лёгкія былі пашкоджаны на 85 працэнтаў, людзі знаходзіліся на апаратах штучнай вентыляцыі.

**– Так і не трапілі ў бальніцу?**

– Урач сказаў, што ў мяне лёгкая форма, а таму прапанаваў мне дамашні рэжым, на які я пагадзіўся. У выніку на бальнічным правёў 23 дні. Увесь гэты час лячыўся дома самастойна, прымаў антыбіётыкі і антыінфекцыйныя лекі, якія выпісаў урач.

Затым далі накіраванне на паўторную камп'ютарную тамаграфію, і яна паказала, што лёгкія прыйшлі ў норму. Я ўжо нават мог бегаць і ездзіць на веласіпедзе. 23 чэрвеня мне закрылі бальнічны.

**– Як вы зараз сябе адчуваеце?**

– Добра, але ж не ведаю, што будзе далей. У інтэрнэце шмат пішуць пра наступствы каранавіруса, пабачым, ці праўда гэта. Пасля хваробы ў мяне выпрацаваліся антыцелы, хаця кажуць, што і другая хваля каранавіруса можа быць, і сама інфекцыя муціруе. Але, паўтаруся, асабіста я зараз пачуваюся добра.

Мая жонка таксама захварэла на каранавірус, але ў яе хвароба больш цяжка праходзіла, таму ляжала ў бальніцы. Зараз ужо выпісалі, ходзіць на працу.

І два сыны перахварэлі, але без сімптомаў.

**– Урачы не тэлефанавалі вам з прапановай здаць плазму?**

– Калі 6 мая плазма спатрэбілася, скажам, нейкаму чалавеку, які памірае, я гатовы быў бы дапамагчы. Але ніхто мне не тэлефанаваў, і сам я таксама нікуды не звяртаўся.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

НА ЗАМЕТКУ!

# На курортах – новые правила этикета

*Что изменилось в турецких отелях? Каковы новые правила шведского стола? И что нового теперь в этикете во время отдыха? Об этом в своих соцсетях рассказала создательница Школы деловой культуры и этикета Оксана Зарецкая. На минувшей неделе она вместе с туроператором «Топ-тур» улетела в Кушадасы изучать обстановку. Вот дюжина новых правил этикета от Зарецкой. Если вы отправляетесь на отдых, запомните их!*

1. В закрытом помещении надо находиться в маске. В самолете, в автобусах, в магазинах – обязательно.

2. В небольшие магазины входить больше чем пяти человекам нельзя.

3. В очереди между людьми расстояние должно быть не менее метра.

4. Во время завтрака, обеда или ужина за одним столом можно собираться не больше чем шести человекам. Не сдвигайте самостоятельно столы, какая бы дружная компания у вас ни была.

5. Нельзя подсаживаться за уже занятые столы, садиться рядом на диван. Расстояние между соседними столами, шезлонгами должно быть не менее полутора метров.

6. О приветствии в виде рукопожатия лучше забыть. Его можно заменить стуканием кулачками или поклоном, кивком.

7. Старайтесь не приближаться к персоналу, разговаривайте на расстоянии. Не подходите слишком близко к стойке администратора.



8. Перемещаясь по отелю, следите за знаками, указывающими направление движения. Их делают для того, чтобы потоки посетителей пересекались минимально.

9. Входя в ресторан, новое помещение, обязательно дезинфицируйте руки. Дозаторы с антисептиком стоят в каждом помещении. Не игнорируйте их.

10. Дезинфицируя руки, нажимайте на дозатор предплечьем или локтем.

11. Избегайте очередей и столпотворений на завтраке в отеле или при регистрации. Лучше попросить персонал принести вам напиток или еду или пригласить вас на регистрацию, когда подойдет очередь.

12. Будьте готовы к тому, что у вас постоянно будут проверять температуру: при входе в отель, при посещении ресторана, на стойке регистрации. Отнеситесь к этому с пониманием. Даже ваш автобус, который едет на экскурсию или везет вас в аэропорт, могут остановить санитарные службы или полиция и проверить у всех присутствующих температуру. Это не проявление недоверия, это забота о безопасности.

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

# Алена Анісім набыла новую машыну

*Былая дэпутатка Палаты прадстаўнікоў, старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы» ўзяла крэдыт, але вельмі рада, што цяпер ездзіць на новым аўтамабілі з салона.*

У адным са сваіх інтэрв'ю «Народнай Волі» Алена Анісім прызналася, што даўно марыць памяняць машыну, але часова мару давялося адкласці: *«Можна, канешне, памяняць быка на індыка, але навошта? Калі мяняць, то набываць ужо новую, з салона, каб гадоў пяць увогуле ні пра што не думаць. Але планы на новае аўто можа перабіць вяселле малодшага сына. Трэба нешта будзе думаць пра жыллё, бо ўсім разам жыць цяжкавата. А кватэру пабудаваць фінансава праблемна. Можа, домік вясковы набыць у прылеглай зоне… Карацей, думаем…»*

Як распавяла «Народнай Волі» Алена Анісім, не так даўно яна перасела на новы маленькі чорны джыпік – Renault STEPWAY.

*«Мой брат, як пабачыў, сказаў: здзяры наленку, бо чытаецца як «сцерва»*, – смяецца Анісім. – *Я сказала, што тады нізашто не здзяру»*.

Колер, дарэчы, уладальніца аўто спецыяльна не выбірала – узяла тую мадэль, якая была ў наяўнасці ў салоне на праспекце Дзяржынскага ў Мінску: *«Атрымалася, што хутчэй яна мяне выбрала. Іншых варыянтаў гэтай мадэлі ў салоне не было»*.

Агулам Алена Анісім аддала за машыну каля 28 тысяч беларускіх рублёў.

*«Сваіх пяць тысяч уклала, а на 23 тысячы дабрала па камплектацыі*, – гаворыць яна. – *Карацей, гадавую сэканомленую пенсію ўклала на ўзнос. І цяпер ціха радуюся, калі еду на сваю радавую сядзібу. Асабліва цешыць усведамленне, што мары збываюцца пры жыцці…»*

**Марына КОКТЫШ.**

КРУПНЫЙ ПЛАН

# Как здоровье Николая Мартынова?

В марте в интернете появилась информация о том, что гендиректор *холдинга «Белорусская кожевенно-обувная компания «Марко»*, бывший член Совета Республики **Николай Мартынов** находится в больнице в тяжелом состоянии, на аппарате искусственной вентиляции легких. Пресс-службе Министерства здравоохранения даже пришлось официально опровергать информацию о том, что Мартынов якобы умер от коронавируса! Сын бизнесмена Павел, который является директором фабрики «Сан-Марко», тогда же коротко сообщил витебским журналистам, что отец действительно в больнице, но у него нет коронавируса. После этого никаких новостей о здоровье Николая Мартынова не было.

«Народная Воля» поинтересовалась, как сегодня здоровье Мартынова.

Пару недель назад секретарь гендиректора «Марко» ответила на этот вопрос так: *«К сожалению, Николай Васильевич бывает у нас пока крайне редко. Примерно раз в неделю. Он еще не приступил к работе. Тем более что сейчас у нас производство в отпуске»*.

В отпуске, как пояснила секретарь Мартынова, не из-за карантина: *«Просто очередной отпуск – у нас всегда в это время производство уходит в отпуск, остается только административная часть»*.

Про самочувствие гендиректора в приемной отвечали так: *«Чувствует он себя нормально, но, честно говоря, на работе не горит. Восстанавливается, занимается своим здоровьем. Много времени на даче проводит…»*

На минувшей неделе в приемной гендиректора говорили, что он все еще на больничном.

Тем не менее на публике Мартынов регулярно появляется. И выглядит весьма неплохо, свежо. Он бывает и на предприятии, принимает участие в заседаниях гориспокома и других официальных мероприятиях. Через некоторое время после выписки из больницы интервью с Мартыновым появилось на одном из белорусских телеканалов. Правда, про свое здоровье гендиректор обувного холдинга там не распространялся. А две недели назад Николай Васильевич был в культурно-историческом комплексе «Золотое кольцо города Витебска «Двина» – там состоялась торжественная церемония награждения белорусских предприятий по итогам республиканского социологического исследования «Молодежный бренд 2020». ООО "Управляющая компания холдинга "Белорусская кожевенная обувная компания "Марко" назвали брендлидером в категории «Обувь».

*«Мы уже второй год завоевываем эту награду»*, – сказал, получая награду, Николай Мартынов. – *Такое признание наших модельеров и в целом коллектива обязывает трудиться еще лучше»*.

Присутствовал Мартынов и на встрече Александра Лукашенко с активом Витебской области, которая прошла 15 июля, – оператор как будто специально несколько раз взял его лицо крупным планом.

Кстати, от интервью для «Народной Воли» Николай Мартынов отказался. Может, побоялся острых вопросов, в том числе и про нынешнюю политическую ситуацию. А может, просто устал от публичности. По словам секретарши, отказ Мартынов аргументировал коротко: *«Не хочу!»*

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**




АД УСЁЙ ДУШЫ

## З юбілеем!

*Не ведаем дакладна, колькі гадоў накукавала зязюля гэтай мілай спадарыні Зоі Дзмітрыеўне Івановай са Смалявічаў. Праз дзень у яе, актыўнай прыхільніцы нашай газеты, Дзень народзінаў. Ды не проста Дзень народзінаў, а прыгожы і сталы ЮБІЛЕЙ.*

*З гэтай нагоды мы, супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Народная Воля" шчыра віншуем Зою Дзмітрыеўну і жадаем моцнага здароўя ёй і яе сямейцы. А зязюля – "заведзены Богам гадзіннік жыцця" (Сяргей Законнікаў) -- накукуе Вам гадочкаў столькі і яшчэ паўстолькі!*

***Народавольцы.***

